


# Весткі й Паведамленьні

**інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*

✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 9(655)**

**Верасень 2020 г.**


## Гарачы жнівень у Беларусі і ў Амэрыцы

Гэтым летам – напярэдадні, падчас і пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі – прадстаўнікі беларускай грамады ў Амэрыцы, а таксама па цэлым сьвеце, паказалі надзвычайную актыўнасьць, рашучасьць і стыхійную арганізаванасьць. Бел-чырвона-белы сьцяг і герб “Пагоня” знайшлі дарогу да сэрцаў соцень і тысяч беларусаў замежжа, якія перад тым не былі зацікаўленыя ў падтрымцы апазыцыйных сілаў, у імкненьні дапамагчы матэрыяльна ахвярам аўтарытарнага рэжыму Лукашэнкі, або ў супольнай працы зь землякамі ў іхных новых краінах. Безумоўна, найвялікшым чыньнікам гэтага ўздыму застаецца нэгатыўны уплыў самой асобы Лукашэнкі й антынародная сутнасьць ягонага рэжыму, панаваньню якога споўнілася ўжо 26 год. Непрыхаваная пагарда і цынічныя выказваньні, тыпу “народзец”, у адрас жыхароў Беларусі, а таксама нежаданьне ўзяць належны ўдел у дапамозе пацярпелым падчас пандэміі каронавірусу паказалі яшчэ раз сапраўдную сутнасьць рэжыму. У той час, калі Лукашэнка і ягоныя ўлады рабілі ўсё, каб замоўчаць сытуацыю, людзі дапамагалі лекарам і шпіталям сваімі грашыма, закупляючы маскі, дэзынфэкцыю, неабходнае абсталяваньне і харчаваньне для мэдпэрсаналу.

Каталізатарам незадаволеньня народу стала таксама махлярская практыка рэжыму падчас перадвыбарчай кампаніі па нэўтралізацыі альтэрнатыўных кандыдатаў на прэзыдэнцкую пасаду. Хай сабе далёкія ад ідэаальных сапраўдных нацыяналістаў, русафільскія кандыдаты Бабарыка і Ціханоўскі апынуліся па сфальшаваных справах за кратамі, а найбольшы хіба аматар Расеі Цапкала – у матухне-Расеі. Лёсу было заўгодна, каб прэзыдэнцкую кампанію працягнулі тры жанчыны, прадстаўніцы штабоў кандыдатаў, на якіх рэжым аказаў свой ціск. І гэтая рамантычная і незвычайная для Беларусі тройца таксама зрабіла сваю справу для мабілізацыі грамадзкіх настрояў за перамены, за сыход Лукашэнкі. Ізноў, тое за што змагаліся блізу 26 год прадстаўнікі ранейшых апазыцыйных структураў, ад БНФ да “Грамады”, стала амаль што явай у дзень выбараў 9 жніўня, калі сотні тысяч беларусаў выйшлі на вуліцы гарадоў, вёсак і мястэчак у беспрэцэдэнтнай спробе паказаць сваю волю і запатрабаваць перагляду вынікаў галасаваньня, якія былі, як паказалі шматлікія сьведчаньні назіральнікаў, а таксама супрацоўнікаў выбарчых камісіяў, сфальшаваныя рэжымам, нягледзячы на афіцыйныя заявы пра тое, што Лукашэнка атрымаў 80% галасоў. Тое, што наступіла пасьля, брутальныя рэпрэсіі, масавыя арышты, ужываньне сьмяротнай сілы супраць пратэстоўцаў і першыя забітыя – прыцягнула ўвагу ўсяго сьвету.

І беларусы Нью-Ёрку і ЗША не засталіся ўбаку ад драматычных падзеяў на Бацькаўшчыне. Яшчэ пачынаючы ад чэрвеня месяца у сеціўных групах ішло актыўнае абмеркаваньне падрыхтоўкі да прэзыдэнцкіх выбараў, арганізоўваліся каманды па апытаньні галасуючых, людзі запісваліся назіральнікамі за працэдурай галасаваньня ў консулятах Рэспублікі Беларусь у Вашынгтоне і Нью-Ёрку. Потым штотыднёва сталі праводзіцца, нягледзячы на працяг трывожнай сытуацыі з ковід-вірусам, мітынгіланцугі салідарнасьці каля штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку, а таксама ў такіх гарадах як Філядэльфія, Чыкага, Маямі, Сан-Франыска, Лёс-Анджэлес. З кожным тыднем, з кожным днём геаграфія акцыяў салідарнасьці зь Беларусьсю пашыралася па ўсёй Паўночнай Амэрыцы,

***заканчэньне на бачыне 3***







*Мітынгоўцы на Таймс-Скўэр*

# Пра Лукашэнку, ад якога трэба пазбавіцца



Аўтарытарны рэжым Лукашэнкі ёсьць зьява тыпалягічная, якая, практычна, усім зразумелая. З другога боку, сытуацыя арыгінальная, незразумелая бальшыні людзей.

Мне не прыходзілася спатыкаць больш подлага і злачыннага суб'екта, чым Лукашэнка. На ім зьнешне – усё напісана. Усё відаць.

У Вярхоўным Савеце дэпутаты Апазыцыі БНФ ставілі пытаньне аб накіраваньні яго на мэдыцынскую псыхіятрычную экспэртызу, але камуністы за гэта не прагаласавалі.

У краінах, дзе разбураныя інстытуты дэмакратыі, на выбарах адбываюцца неверагодныя рэчы. Могуць прагаласаваць за камэдыянта, за хатнюю гаспадыню і нават за вар'ята.

Менавіта такі выпадак адбыўся з Лукашэнкам, хоць, паўтараю, на ім усё відаць, асабліва калі гаворыць. І тым ня менш, 26 гадоў беларускае грамадзтва гэтага як бы ня бачыла. Людзям здавалася нешта іншае. Гэты фэнамэн мяне найбольш уражваў – масавая ўнутраная сьлепата. Нарэшце, людзі нібыта прачнуліся. І тут падсьцерагае другі фэнамэн – неразуменьне лёгікі і матывацыяў пацыента ва ўладзе. Людзі думаюць стэрыятыпамі, а пацыент – індывідуальны.

Псыхічны дыягназ Лукашэнкі найбольш поўна апісаў Дзімітры Шчыгельскі. Пісалі таксама іншыя мэдыкі. Тут я зыходжу з існуючых мэдычных прафэсійных ацэнак і сваіх назіраньняў. Псыхічная паталёгія Лукашэнкі (мазаічная псыхапатыя) зьяўляецца прычынай закаранелай адсутнасьці эмпатыі (разуменьне чужога болю, спачуваньне) і выяўленьня пэрманэнтнай хлусьні, у якую ён верыць з моманту апавяданьня. Хлусьня ідзе ў яго як плынь сьвядомасьці і заваражвае наіўных людзей. Небясьпечнай праявай ягонага псыхічнага стану зьяўляецца адчуваньне сябе ў акружэньні ворагаў. Таксама назіраецца незьнікальная злапомнасьць, прага ўсіх перамагчы, адпомсьціць крыўдзіцелям.

Але самае фэнамэнальнае, трансцэндэнтнае і пастаяннае – гэта паталягічная прага ўлады. Улада над усімі і ўсім – гэта тое, што ўзбуджае і спальвае ўвесь ягоны арганізм, канцэнтруе волю, кідае на "подзьвігі" любой цаной. Мяркую, што тут таксама вынік адхіленьня псыхікі.

Гэты дыягназ, засьведчаны мэдыкамі, небясьпечна карэлюецца з сацыяльнай асобай і ідэалёгіяй Лукашэнкі, зь ягоным мэнтальным узроўнем і станам асобы. У сваім духоўным кшталце гэты чалавек ёсьць тыповы мамэлюк, янычар, які прайшоў праз савецкую сярэднюю школу, савецкае ідэалягічнае выхаваньне, савецкую армію, камуністычную прапаганду і стаўся зацятым ненавісьнікам сваёй нацыі (тут яшчэ і сіндром цяжкага дзяцінства), сваёй нацыянальнай мовы, нацыянальнай ідэалёгіі і культуры. Нянавісьць да беларусаў, да беларускай мовы і беларускай волі ў яго ўсёпаглынальная. Яна спальвае ягоны арганізм, ён ня можа стрымлівацца, яго перакручвае ад нянавісьці да свайго. (Як папулярна кажацца, самы страшны вораг чалавека – гэта ракавая клетка, якая перарадзілася.)

Сумяшчэньне дыягназу і збочанага сацыяльнага вобразу ў разьвіцьці ягонай асобы стварыла тую фатальную псыхалягічную мяшанку, якую беларусы назіралі 26 гадоў і толькі цяпер убачылі.

Ведаючы псыхічныя і сацыяльныя складнікі характару Лукашэнкі можна, практычна, цалкам дакладна ацэньваць ягоныя дзеяньні і прадбачыць паводзіны.

У аднясеньні да сёньняшняга дня, беларусам трэба ўлічваць, што сам Лукашэнка ад улады не адмовіцца ні пры якіх абставінах і будзе змагацца за яе любымі мэтадамі і сродкамі. Калі дзеля захаваньня сваёй улады трэба будзе страляць у людзей, то загад стане без прамаруджваньня і сумненьняў. Калі дзеля захаваньня ўлады трэба пакласьці палову нацыі (а то і ўвесь народ) пад кулямётамі, то (нават не сумнявайцеся) – загад прагучыць без ваганьняў. Тут – паталягічны сіндром улады плюс нянавісьць да "сьвядомых". Праблема толькі ў тым, каму прыдзецца страляць. Але пры патрэбе правакатары знойдуцца (з Масквы прыедуць).

Не хацеў бы, каб мірныя і наіўныя людзі ўспрынялі тое, што я тут кажу, зь лёгкасьцю ў думках. За 26 гадоў нешта можна б было і зразумець.

Цяпер ужо ідзе адкрытая вайна. Вайна ўзурпатара і групы сілы (сілавікоў) супраць беларускага народу. Ёсьць загінулыя, пралілася нявінная кроў. І з таго часу, як гэтая кроў пралілася, наш беларускі сьвет зьмяніўся. Назад дарогі няма. Ідзе вайна. Лукашэнка прэч! Трыбунал!

Наша зброя пакуль што – гэта мірная масавасьць людзей, нашая шматлікасьць, салідарнасьць і голыя рукі. Рэжым (Лукашэнка) зьвярнуўся да Пуціна дзеля садзеяньня, рыхтуе рэпрэсіі, страшыць, шукае зачэпак, прыдумвае пагрозы, адчайна хапаецца за ўладу.

Масква прыслала ў Беларусь сваіх прапагандыстаў-тэлежурналістаў – ворагаў Беларусі, сваіх вайскавікоў і плойму паліттэхнолягаў, якія раяць Лукашэнку зьбіраць "свае" мітынгі падтрымкі зь бюджэтнікаў, палохаць грамадзтва лакаўтамі, зачыненьнем прадпрыемстваў, рэпрэсіямі і г. д. Руская агентура пачала працаваць над дыскрэдытацыяй беларускіх нацыянальных сымбаляў (адзін з прыёмаў – злучыць нацыянальны Бел-Чырвона-Белы Сьцяг беларускай рэвалюцыі зь зялёна-чырвоным савецкім сьцягам крывавага злачыннага рэжыму). У Сеціве пайшлі нерастам рускія тролі, імкнуцца пасварыць беларусаў з украінцамі, гадзяць на беларусаў і г. д.

Можна прадбачыць некалькі сцэнароў самапаратунку ўзурпатара. Назаву толькі самы дрэнны. Увядзеньне ваеннага стану па прыкладу гэнэрала Ярузэльскага ў Польшчы часоў "Салідарнасьці". Дзеля гэтага якраз ствараецца ілюзорная рэальнасьць аб быццам бы падрыхтоўцы нападу на Беларусь краінаў НАТО – амэрыканцаў, Польшчы, краінаў Прыбалтыкі і Нідэрляндаў. На захад Беларусі перакідваюць войскі з усходу (тым самым агаляюць небясьпечную ўсходнюю мяжу), Лукашэнка выступае ў Гародні і кажа аб падрыхтоўцы "вторжения", і што ён іх усіх (гэтых заходнікаў) раскусіў і гатовы адстаяць цэласнасьць і незалежнасьць радзімы.

Людзі сьмяюцца, бо калгасны стратэг адстаў ад жыцьця гадоў на трыццаць. У век інтэрнэту казаць такое – гэта поўны "аўт". Тым ня менш, усё разыгрываецца з дэбільнай сур'ёзнасьцю. Міністар абароны заяўляе, што гатовы выканаць любы загад і страляць па ворагах знутры ды спатыкаць танкі НАТО.

У нядзелю (23.08.2020) абгарадзілі чамусьці стэлу "Менск горад-герой" калючым дротам і выставілі армію – два рады жаўнераў аховы з аўтаматамі, каб не праравaліся "фашысты" пад Бел-Чырвона-Белым Сьцягам. Гэтага не камэн-

*заканчэньне на наступнай бачыне*

# Гарачы жнівень

а таксама па ўсім сьвеце. Мітынгі сталі рэгулярна праводзіцца ў Таронта і Атаве, Бостане, Дэнвэры, у дзясятках іншых гарадоў кантынэнту.

Калі прыйшоў дзень выбараў, беларуская грамада Нью-Ёрку і ваколіцаў зарганізавала масавы мітынг на Таймс-Скўэр, і потым удзельнікі мітынгу падыйшлі да консуляту РБ ў Нью-Ёрку, дзе беларусы з усёй Амэрыкі стаялі ў чарзе, больш за тысячу чалавек, часам па 8-10 гадзінаў, каб прагаласаваць, аддаць голас за свайго кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі. Па выніках экзыт-полаў у Вашынгтоне і Нью-Ёрку гэтым кандыдатам аказалася Сьвятлана Ціханоўская.

Затым у наступныя дні беларуская грамада Амэрыкі выказала сваю салідарнасьць зь землякамі на Бацькаўшчыне, на якіх абрынулася вялізная хваля рэпрэсіяў. Цяпер дэманстрацыі сталі набіраць усё новых і новых удзельнікаў. На сеціўных групах па зборы грошай праходзяць кампаніі падтрымкі пацярпелых ад лукашэнкаўскага тэрору, людзі складаюць лісты пратэсту, кантактуюць са сваімі сэнатарамі й кангрэсмэнамі, тлумачачы сытуацыю ў Беларусі й патрэбу дапамогі пратэстоўцам. Людзі абмяркоўваюць, як эфэктыўней дапагчы змаганьню супраць тыраніі, як паспрыяць



*Чарга жадаючых прагаласаваць расьцягнулася не на адну сотню мэтраў.*

найхуткаму вызваленьню палітзьняволеных, як давесьці сьвету злачыннасьць і нелегітымнасьць лукашысцкага рэжыму і сфальшаваных ім вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў. Змаганьне працягваецца. І важна, каб той уздым, тая салідарнасьць, што выявілася ў гэтыя жнівеньскія дні, мацнелі й шырыліся, каб абурэньне й прага справядівасьці пераўвасобіліся ў актыўнасьць і супольныя дзеяньні, жаданьне быць побач зь землякамі, каб яны трансфармаваліся ў мацаваньне беларускіх групаў і арганізацыяў у ЗША і Канадзе, а такама па ўсім сьвеце.

Ад салідарнасьці беларусаў у сьвеце, але перш за ўсё на Бацькаўшчыне, залежыць у гэтыя дні тое, які будзе далейшы лёс і будучыня Беларусі. У гэты 2020 год, год сотых угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну, нам трэба зрабіць усё, каб змаганьне за вольную, незалежную і дэмакратычную Беларусь завершылася перамогаю беларускага народу – перамогай над тыраніяй, гвалтам і хлусьнёй.

**Віталь ЗАЙКА**

# Пра Лукашэнку...

тую. Сьведчу толькі, што дурні са зброяй вельмі небясьпечныя.

Робіцца гэты фантасмагарычны спэктакаль па некалькіх прычынах: запалохваньне людзей; антураж для аб'яўленьня ваеннага стану альбо пасьля магчымай самаправакацыі на захадзе Беларусі, каб паклікаць у краіну расейскія войскі з АДКБ, быццам бы на дапамогу.

Аб тым, што Лукашэнка можа пачаць рэпрэсіі супраць людзей і ўвесьці ваеннае становішча, сьведчаць і ягоныя неадэкватныя паводзіны пасьля Маршу Новай Беларусі. Ён узбуджана хадзіў з аўтаматам у руках па двары свайго палацу, цісну далоні амонаўцам, казаў "спасиба" і пагражаў, што "с ними (гэта значыць, з народам) мы разберомся". (Навошта яму быў аўтамат? Можа ён, як Чэрчыль у час вайны, хоча стварыць сабе вобраз рашучага хлопца ў барацьбе з народам? Ці можа ў пацыента ад напружаньня проста зусім "паехаў дах"?)

Абсалютна неадэкватныя паводзіны. Ва ўяўленьнях сваёй галавы ён знаходзіцца як бы на вайне, кіруе ваеннымі дзеяньнямі. Гэта ёсьць небясьпечны прыступ страха, якім, магчыма, нават звонку кіруюць (дзіўна, што гэтае відэа імгненна зьмясьцілі ў Інтэрнэце.)

Калі за ноч узурпатар не супакоіцца, то неўзабаве ён можа сапраўды чаго-небудзь натварыць.

Ізноў жа адзначаю, што ў гэтых абставінах нават самае дурное і тупое можа пачацца. Тым больш, што генэралы і "генэралісімус" інтэлектам не ўражваюць (а маскоўскія паліттэхнолягі працуюць).

Важна ведаць людзям, што рабіць далей. Стратэгічна трэба нарошчваць нацыянальную сілу, салідарнасьць і самаарганізацыю. Гэта ёсьць наша галоўная народная зброя. Такім чынам трэба працягваць масавыя пратэсты. Адначасна неабходна ствараць суполкі "Вольнай Беларусі". Калі такіх суполак стане шмат, тады ўзьнікне беларускі нацыянальна-вызвольны рух Вольная Беларусь, зьявяцца лідэры і палітыкі.

**Другое.** Трэба ствараць страйкамы на прадпрыемствах.

**Трэцяе** – неабходна паўсюдна ствараць ворганы самакіраваньня. Народ бяз справы не застанецца. Можна будзе самым вырашаць шматлікія пытаньні грамадзкага і сацыяльнага жыцьця.

**Чацьвертае.** Надыходзіць 1-ы верасень. Дзеці пойдуць у школу. Не давайце лукашыстам надалей зьдзеквацца над нашай беларускай мовай і працягваць русіфікацыю. Запісвайце дзяцей у беларускія клясы, патрабуйце беларускага навучаньня. У гэтым – сьветлая будучыня нашай нацыі. Цяпер, калі адбываецца наша Беларуская Рэвалюцыя, трэба ўсё добра рабіць.

25-ы Жнівень – вялікае нацыянальнае сьвята – Дзень Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь. У аўторак а 19-й гадзіне – усе на вуліцы, усе на плошчы. Сьпявайце беларускія песьні, сьпявайце наш нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" (ён вельмі актуальны) і наш духоўны гімн "Магутны Божа".

Мацуйма нашу нацыянальную сілу. Толькі мы, беларусы, можам уладкаваць нашу краіну і нашу нацыянальную будучыню. Трэба не здавацца і рабіць так, каб нашым дзяржаўным лёсам не займаліся іншыя краіны (Расея ды Эўропа). Яны зробяць дакладна дрэнна. Маем вялікі вопыт. Хіба што калі Амэрыка падтрымае Беларусь і дапаможа. Але добра будзе так, як мы зробім. Збавімся ад Лукашэнкі (а мы збавімся), вяртаем законную Канстытуцыю 1994 г., праводзім выбары ў парлямэнт, усталёўваем дэмакратыю, вызваляем свабоду, вяртаем закон, вольную працу і справядлівасьць, мацуем краіну.

Слава Айчыне! Жыве Беларусь!

*23 жніўня 2020 г.*

**Зянон ПАЗЬНЯК**

# Наш сьцяг, наш сьцяг...

*“Наш ад крыві чырвоны, ад болю белы сьцяг...”*
*(зь песьні З. Вацюшкевіча)*

Апошнім часам назіраецца ўзмацненьне нападаў на беларускі нацыянальны Сьцяг. Лукашызм у перадсьмяротных сутаргах імкнецца кінуць цень на Сьцяг, гісторыя якога налічвае 103 гады. Сьцяг, пад якім была абвешчаная першая беларуская незалежная дзяржава найноўшага часу – Беларуская Народная Рэспубліка. Сьцяг, пад якім ішлі на бой ваяры Слуцкага Збройнага Чыну ў 1920 годзе. Пад гэтым Сьцягам нацыянальныя беларускія сілы змагаліся супраць палянізацыі ў Заходняй Беларусі. З гэтым Сьцягам у сэрцы беларускія нацыянальныя лідэры ў цяжкія часы вайны імкнуліся захаваць ідэю незалежнасьці, перадаць наступным пакаленьням даробак змаганьня за сваю дзяржаву. Гэты Сьцяг падняла ў 1980-я гады адраджэнская моладзь з “Майстроўні”, “Талакі”, “Тутэйшых”. Пад гэтым Сьцягам быў утвораны Беларускі Народны Фронт – сіла, што спрычынілася да ўтварэньня сучаснай незалежнай Беларусі. У 1991 годзе Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і герб “Пагоня” сталі дзяржаўнымі сымболямі Рэспублікі Беларусь.

Авантурыст Лукашэнка перш імкнуўся прымазацца да нацыянальнага Сьцягу і, стаўшы прэзыдэнтам, нават прымаў пад ім прысягу. Але потым, аблудна патаптаў гэты Сьцяг, замяніўшы яго на перароблены за адну ноч перад рэфэрэндумам “Закат над балотам”. Усе 26 год лукашызму дэмакратычныя сілы Беларусі змагаліся супраць рэжыму пад Сьцягам Свабоды, нацыянальным беларускім Сьцягам.

Цяпер антынацыянальныя прарасейскія сілы актывізавалі напады на беларускі нацыянальны Сьцяг, убачыўшы, якая магутнаая сіла закладзеная ў яго-най ідэі, у прыгожай, ляканічнай гармоніі колераў. Тыя нягеглыя спробы ачарніць Сьцяг – выкапаныя прыёмы колішняй камуністычнай прапаганды, што імкнулася скарыстаць факт ужываньня Сьцягу падчас нямецкай акупацыі.




Але паглядзім, што было насамрэч. Ці ўжывалі гэты сьцяг нейкія паліцыйныя ці карныя структуры, што заплямiліся вайсковымі злачынствамі, як без супыну паўтарае лукашэнкаўская прапаганда? Не і не. Ці сапраўды “пад гэтым сьцягам расстрэльвалі людзей”?! Доказаў гэтаму паклёпу няма. Гэта ёсьць мэтанакіраваная дэзынфармацыя і адкрытая хлусьня. Але штораз можна бачыць у сеціве незамысловатыя крэатывы лукашыстаў – фота зь нейкага цяперашняга мітынгу і побач фота дэманстрацыі з 1944 году. Гэтыя гнюсныя і нечыстаплотныя правакацыі звычайна хутка затухаюць, калі з правакатарамі ўступіць у сапраўдную дыскусію, запатрабаваць доказы і спасылкі. Але з пашырэньнем пратэстаў супраць лукашызму трэба чакаць, што колькасьць такіх правакацыяў будзе ўзрастаць. Людзі, будзьце пільныя! Цікаўцеся сваімі нацыянальнымі сымболямі – Сьцягам і Гербам. У сеціве можна знайсьці поўную інфармацыю пра стварэньне і гісторыю нашых сапраўдных нацыянальных сымболяў.

Другой праблемай зьяўляецца памылковая ідэя, што для кансалідацыі народу Беларусі варта ўжываць, поруч з нацыянальнымі сьцягам і гербам, таксама і цяперашнія сымболі РБ. Калі разабрацца, што яны сабою уяўляюць, можна заўважыць, што гэта варыяцыі сьцягу і гербу БССР, прынятых у сталінскія часы, якія былі створаныя па асабістых інструкцыях А. Лукашэнкі непасрэдна перад ганебным рэфэрэндумам 1995 году. Тым самым яны зьяўляюцца непасрэднымі сымболямі лукашызму, што вось ужо 26 год пануе ў Беларусі. Ужываць сымболі лукашызму, выходзячы на мітынгі супраць яго, ёсьць абсурд і брак здаровага сэнсу. Патрабаваць “пераменаў”, трымаючы ў руках чырвона-зялёны сьцяг, ёсьць ня меншым скажэньнем лёгікі. Таму трэба пашыраць веды пра нацыянальную сымболіку, пераконваць у няслушнасьці захаваньня лукашысцкіх сымболяў. Тыя нешматлікія, як выглядае, асобы, што не ўспрымаюць сваім нацыянальны сьцяг і трымаюцца, як пьяны плоту, сьцяга лукашызму, наўрад ці змогць быць надзейнай падтрымкай у справе здабыцьця свабоды, дэмакратыі ды сапраўднай незалежнасьці для нашай Бацькаўшчыны. Але працу па інфармаваньні такіх людзей ні ў якім разе нельга спыняць. Толькі павага да людзей і спроба зразумець іхныя погляды, карэктна паказаць на няслушныя моманты, змогуць прывесьці да ўзаемаразуменьня, а пасьля і салідарнасьці, яднаньня ў справе здабыцьця новай, лепшай будучыні для Беларусі.

**Віталь ЗАЙКА**

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

**В. Валынец ...............60**
**М. Валынец ..............60**
**К. Пляўга ................60**
**А. Гаршкоў ..............50**

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”**
***Viktar Yedzinovich.***

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**
адбудзецца ў нядзелю 12-га верасьня 2020 году ў Цэнтральным парку на Мангэтане.
Збор а **10.30** раніцы пры ўваходзе ў парк на 5-й авэню і 72-й вул.

-------------------

На штомесячных сходах арганізацыі можна таксама аплаціць сяброўскія складкі і падпіску на інфармацыйны бюлетэнь.

*Паважаныя* ***Ю. Акуліч, К. Буяр, Я. Новікава, С. Сіткевіч,*** *калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**П. Скрабко ................50**
**М. і В. Валынец ..........30**
**С. Неўдах .................30**

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich.***

*Падпіску таксама можна афармiць на сайце* ***www.e-krama.com***